

№ 11 (172)
Сакавік 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





## Рэгіянальны фотафакт

Я часта бываю ў лесе. 25 лютага дайшоў да былой вёскі Любажэрдзі, дзе сёння захавалася пяць хатак з дзесяццю жыхарамі. Тамтэйшы хутарок мне нагадаў сядзібу лясніка з «Новай зямлі». З суботы на нядзелю выпаў бялюткі снег, ніхто не паспеў парушыць яго прыгажосць. Такім я пабачыў гэты куточак.

Вёсачцы Любажэрдзі якраз споўнілася 80 гадоў. Яна была заселеная ў 1920-я гады пасяленцамі з Баранавіцкай воласці. Знаходзіцца за 3 кіламетры ад Лунінца.

*Тэкст і фота*
***Івана ПАНАСЮКА***

## Шчырая краязнаўчая размова

Нядаўна ў рэдакцыю прыйшоў канверт ад Івана Аляксеевіча Панасюка. Вядомы краязнаўца Брэстчыны даслаў нам зборнік «Велута», які цалкам прысвечаны аднайменнай вёсцы ў Лунінецкім раёне, а таксама некаторыя цікавыя здымкі. Вось што аўтар напісаў у лісце:

«Вырашыў даслаць вам мой апошні асабісты экземпляр зборніка "Велута" з надзеяй яго вяртання. Шкада, што ён мае малы наклад, з першай старонкі зразумееце чаму. Спіс маіх "добраахвотных спонсараў" – гэта мае былыя вучні, якія пражываюць у розных куточках Еўропы. Сустрэўся з імі 29 красавіка падчас 120-гадовага юбілею Вялуцкай школы. У будучым ёсць магчымасць пашырыць матэрыялы аб людзях вёскі, зрабіць фотаздымкі большых памераў і каляровымі, але гэта толькі мары, калі Бог дасць здароўе. Зборнік "Велута" мая 4 спроба размаўляць з жыхарамі Лунінеччыны».




І спроба гэта атрымалася ўдалай. А пра што вядзецца своеасаблівая размова, бачна з назваў раздзелаў зборніка: «З гісторыі вёскі Велута», «Будаўніцтва вузкакалейкі», «Гады ліхалецця», «Афганцы», «Школа ў вёсцы Велута», «Знаёмыя незнаёмцы», «Вясковыя святы, гульні і абрады», «З гісторыі калгасаў», «Ветэраны сельскагаспадарчай вытворчасці», «Ветэраны Люшчанскага ўчастка», «Ветэраны-леснікі», «Меліярацыя вакол в. Велуты», «Царква вернікаў ХВЕ», «Велута сёння», «Урочышчы», «Яны былі першымі», «Вясковы фотамайстра Д.С. Драбовіч». Акрамя гэтых раздзелаў, у зборніку ёсць дадатак, храналогія, тлумачэнне слоў, спіс выкарыстанай літаратуры, а таксама прадмова «Па стане душы» Вадзіма Жылко, гісторыка, навуковага супрацоўніка Лунінецкага краязнаўчага музея.

Адзіны «недахоп» выдання – невялікі тыраж (усяго толькі 200 асобнікаў), які зусім не адпавядае зместу, цікаваму, грунтоўнаму.

*(Працяг на стар. 6)*

№ 11 (172), сакавік 2007 года

*Наш каляндар*

## Паслядоўнік

Летась «КГ» шырока адзначыла 460-годдзе з дня нараджэння Ф. Еўлашоўскага (1546, Ляхавічы – 1617), грамадскага дзеяча, матэматыка і юрыста, які быў сааўтарам розных дзяржаўных і юрыдычных дакументаў, а таксама напісаў «Гістарычныя запіскі» (надрукаваныя толькі ў 1886 г.). Вось імі, фактычна дзённікамі, ён стаў першым беларускім мемуарыстам, дзе адлюстраваў побыт насельнікаў ВКЛ, светапогляд розных іх слаёў (найперш шляхты), даў характарыстыкі розных тагачасных вядомых асоб.

Так сталася, што ў год смерці Ф. Еўлашоўскага на Случчыне 3 сакавіка нарадзіўся Ян Цадроўскі – будучы навучэнец Кракаўскай акадэміі, вайсковец на працягу 32 гадоў у Радзівілаў (з Багуславам ён наведаў Германію, Данію, Галандыю, Францыю і Англію). Там вёў шматлікія перамовы (у тым ліку і з каралём Францыі Людовікам XIII), вывучаў мясцовыя лад і побыт, замежнае веданне славянскага свету (найперш Польшчы і ВКЛ). У час агрэсіі войск цара Аляксея Міхайлавіча (1655) вёў перамовы са шведскім каралём Карлам X, але помачы ад таго не атрымаў. Зведаў неўраджай і голад, ездзіў у Друю з чалабітнай да Аляксея Міхайлавіча з просьбай не парушаць правы шляхты Мінскага ваяводства. Цар абяцаў, але не споўніў свае абяцанні. Апроч абяднення, напала і іншая бяда – эпідэмія (1657–1658), ад якой памерлі многія родзічы Я. Цадроўскага.

Шмат чаго пабачыўшы і зведаўшы, ён напісаў мемуарныя дзённікі (апублікаваныя ў 1855-м у часопісе «Временник императорского Московского общества истории и древностей российских»), дзе расказаў пра шматлікія гістарычныя падзеі і факты, апісаў свае дыпламатычныя даручэнні ў час руска-польскай вайны 1654–1667 гг., голад 1656-га на Міншчыне, рэлігійныя каталіцка-кальвінісцкія канфлікты 1682-га. Таксама ён падаў нямала звестак пра сваю радню, знаёмых, дзе заклікаў улічваць высокае назначэнне жыцця чалавека, верацярпімасць і іншыя гуманістычныя рэчы. Памёр ён прыкладна ў 1682 г.

Дзённікавыя творы Ф. Еўлашоўскага і Я. Цадроўскага з грунтоўнымі прадмовай і прадметна-біяграфічнымі каментарыямі літаратуразнаўцы А. Коршунава пад агульнай назвай «Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст.» былі выдадзеныя ў 1983 г. у выдавецтве «Навука і тэхніка».

## З гаратлівых і шчаслівых

Сёлета, 11 сакавіка, спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння Алеся Гаруна (сапр. Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч; 1887, былы фальварак Новы Двор Мінскага раёна – 1920) – беларускаму паэту, празаіку, драматургу, публіцысту. Скончыў Мінскае гарадское (1897) і рамеснае (1902) вучылішчы. Працаваў у Мінску сталяром і ў перадрэвалюцыйным 1904 г. далучыўся да эсэраўскага руху і, паколькі быў блізкі да адраджэнскай беларускай ідэі, то і назірк царскай ахранкі за ім быў узмоцнены – у 1907-м яго арыштавалі, у 1908-м саслалі ў Іркуцкую губерню. Там у 1912 г. сустрэўся з земляком і сваяком Я. Коласа, будучым мовазнаўцам і пісьменнікам Я. Лёсікам, які ўзмацніў у ім беларускія настроі, натхняў выжыць у цяжкіх умовах ссылкі, калі прыходзілася выцерпліваць суровы клімат, знявагі, чорную работу, што ўрэшце прывяло да цяжкой хваробы – сухотаў. У Мінск вярнуўся толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі, у верасні 1917 г., пераадольваючы нездароўе, адразу ж падключыўся да беларускага нацыянальнага руху і на Усебеларускім з'ездзе 1917-га, дзе магло быць ухвалена пытанне незалежнасці Беларусі, быў віцэ-старшынёй. Пасля, у лютым-сакавіку 1918-га, калі мяснікоўцы перад нашэсцем кайзераўскіх войск, прыхапіўшы казну, збеглі ў Смаленск, прымаў актыўны ўдзел у сцвярджэнні нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту, рэдагаваў газету «Беларускі шлях», адстойваў інтарэсы беларускага народа ў белапольскую акупацыю. Ва ўмовах ліхалецця страшэнная хвароба ўзмацнялася, і сябры, як раней М. Багдановіча, змусілі яго лячыцца. Сабралі сродкі і накіравалі на курорт Закапанэ. Але было позна ўжо. Па дарозе, у Кракаве, трыццацітрохгадовы А. Гарун 28 ліпеня 1920 г. памёр.

З-за жыццёвых неўладкаванасцей і нягод ягоныя раннія творы не ацалелі, хоць вядома, што ў «Нашай Ніве» пачаў ён друкавацца рана, яшчэ з 1907 г. Любіў пісаць светлыя, лірычныя вершы, у якіх пазнейшыя даследчыкі падкрэслілі яго паэтычную рытмічнасць і меладычнасць, філасофскую заглыбленасць, часамі публіцыстычнасць, што пэўным чынам набліжала яго да паэзіі Я. Купалы і Я. Коласа. Найперш шчырым і неадольным жаданнем лепшай долі для народа, непрымірымасцю да несправядлівасці, гатоўнасць ахвяраваць сабой дзеля людскога шчасця і любай Бацькаўшчыны. Пры жыцці, як і М. Багдановіч, выдаў усяго адзін зборнік паэзіі «Матчын дар» (1918, 2-е выданне 1929, факсімільнае 1988). Сродкамі прозы намагаўся асвятліць сацыяльна-нацыянальнае бяспраўе беларуса («Пан Шабуневіч»), а таксама, як царскі рэжым і астрог фізічна і маральна калечаць чалавечы лёс («Чалавек без крыві», «Маладое»). Трыпціх «П'еро і Каламбіна» прысвечаны неўміручай тэме кахання, дзе ярка праявіўся погляд аўтара на таямнічы свет пачуццяў. У зборніку «Жывыя казкі» (1920) ён праявіўся як драматург, пішучы п'есы для дзяцей, дзе імкнуўся выхоўваць маладое пакаленне ў духу аптымізму, сумленнасці і высакароднасці.

Алесь Гарун. Матчын дар. Думы і песьні 1907-1914. Менск 1918 г.

Па хлуслівых абвінавачваннях савецкіх ідэолагаў і крытыкаў вульгарнага накірунку доўга А. Гаруну прыпісвалі «буржуазны нацыяналізм», здраду (!) беларускаму народу. І толькі ў 1990-х пачалі спакойна прызнаваць, што ён за свой кароткі век, зразумела, быў не без пошукаў і хістанняў грамадска-палітычнага характару, але свята служыў Бацькаўшчыне.

**Г. ДОЙЛІД**

АПОШНІЯ НАВІНЫ.

ВЕСТКІ З ФРОНТУ.

У ВІЛЬНІ.

Розныя весткі.

*Навіны ў газеце «Беларуская думка»*

*Выданне-легенда*

## «Рубон» — альманах, які ўваскрос праз 100 гадоў

***Альманах «Rubon» (Рубон – старажытная назва ракі Заходняя Дзвіна) выдаваўся на польскай мове ў Вільні ў 1842–1849 гадах. Выдаўцом быў К. Буйніцкі. Выйшла 10 тамоў (нумароў) выдання, а распаўсюджваўся ён пераважна на Віцебшчыне і меў 177 падпісчыкаў. На старонках альманаха друкаваліся матэрыялы па беларускай этнаграфіі, фальклору і гісторыі Беларусі, праводзілася думка пра самабытнасць культуры беларусаў – асвятлялася культурнае жыццё беларускага Наддзвіння.***

Не пакідайце ж мовы беларускай!

РУБОН

БЮЛЕТЭНЬ Верхнядзвінскай раённай рады Грамадскай арганізацыі ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

Вакол альманаха гуртаваліся значныя літаратурныя сілы: Аляксандр Гроза, Вінцэнт Рэўт-Газдава, Тадэвуш Лада-Заблоцкі, Ян Чачот, Клеменс і Юльян Гжымаоўскія, Міхал Борх, Геранім Марцінкевіч, Адам Плятэр, Ігнат Храпавіцкі і іншыя.

Вызначальным для будучыні «Рубона» з'явілася тое, што першы нумар выдання адкрыўся менавіта вершам «Дзвіна» Ігната Храпавіцкага, ураджэнца сучаснага Верхнядзвінскага раёна. Ігнат Храпавіцкі – прыкметная постаць у грамадска-навуковым і літаратурна-журналісцкім руху на Беларусі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Нарадзіўся ён у маёнтку Каханавічы. Хоць бацька яго з'яўляўся найбуйнейшым у павеце землеўладальнікам, «камергерам двара яго імператарскай вялікасці», Ігнат быў пераканаfamым антыпрыгоннікам. Больш за тое, у 1850 годзе ён распрацаваў праект скасавання паншчыны, што выклікала перапалох у царскай адміністрацыі, якая зрабіла ўсё, каб праект не набыў сілу закона.

Дэмакратызм Храпавіцкага, яго спагадлівае стаўленне да простага люду, да вечных працаўнікоў сялянаў-беларусаў знайшлі месца на старонках альманаха «Rubon». Гады супрацоўніцтва Храпавіцкага з выданнем былі найбольш плённымі ў яго жыцці: ён друкаваў вершы, збіраў і даследаваў беларускі фальклор, назіраў за асаблівасцямі беларускай мовы. У 1845 годзе ў 5-м томе альманаха была апублікавана навуковая праца Ігната Храпавіцкага «Погляд на паэзію беларускага народа». Сучаснік аўтара Рамуальд Друцкі-Падбярэзскі ў артыкуле «Беларусь і Ян Баршчэўскі» (Пецярбург, 1844) пісаў пра даследаванні І. Храпавіцкага так: «Гэта першы самастойны філасофскі погляд на паэзію беларускага народа, першая адзнака набліжэння нацыі да самапазнання сябе і сутнасці сваёй паэзіі...»

Храпавіцкі глыбока адчуваў спецыфіку беларускага фальклору, першы звярнуў увагу на яго гістарычную вартасць: «Не трэба, аднак, думаць, што беларуская (народная) паэзія пазбаўлена ўсялякай гістарычнай вартасці,.. ацаніце таямніцу ўнутранага жыцця народа, бо выразна адлюстраваны ў ёй звычаі, дамашні побыт, характар нашага люду...»

Прайшоўшы праз стагоддзі, «Рубон», нібы міфічная птушка Фенікс, узняўся з попелу і адрадзіўся менавіта ў той мясціне, дзе калісьці зараджаўся і распаўсюджваўся – у Верхнядзвінску, на радзіме Ігната Храпавіцкага, аднаго з ініцыятараў і актыўных аўтараў «Рубона».

У лютым 2000 года «Rubon» атрымаў другое жыццё. Заснавальнік выдання – Верхнядзвінская раённая рада грамадскай арганізацыі «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны». Распаўсюджваецца бясплатна і выходзіць накладам 299 асобнікаў. Праўда, змянілася форма: «Рубон» ператварыўся ў чатырохпалосны бюлетэнь. Але захавалася сутнасць ідэі, закладзеная ў падмурак «Рубона» яшчэ яго першастваральнікамі. «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай!» – гэтымі словамі Францішка Багушэвіча пачынаецца кожны чарговы нумар бюлетэня. А гэта значыць, калектыў рэдакцыі працягвае ідэі сваіх папярэднікаў.

Звяртаючыся да чытачоў, «Рубон» піша: «Верхнядзвіншчына багатая на сапраўдныя скарбы беларушчыны, якая мае глыбокія і моцныя карані, што ўзышлі з крывіцкай даўніны. Гэты край, Падзвінне, размешчаны на самым сутыку розных дзяржаў і народаў, не толькі не страціў сваю беларускасць, але, наадварот, узбагаціўшыся ў прыязных суседскіх стасунках з латгаламі ды рускімі, набыў яскрава выражанае і па-мясцоваму адметнае беларускае аблічча, якое высвечваецца праз жывы фальклор, жыццястойкі менталітэт людзей. Мы хочам адкрыць скарбонку створаных культурных багаццяў».

***Ужо некалькі гадоў выходзіць аднаўленае на сутыку стагоддзяў выданне. Хацелася б пажадаць «Рубону» плёну ў творчасці і выказаць спадзяванне, што ён пасяхова будзе крочыць па яшчэ адным, ужо XXI, стагоддзі!***

**Вераніка ПАНІЗЬНІК**







## *Кароткі слоўнік* краязнаўча-прававой тэрміналогіі *беларускай старажытнасці*

**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ФАЛЬВАРАК** (ад ням. хутар) – у Польшчы і ВКЛ двор багатага землеўласніка з многімі жылымі, гаспадарчымі будынкамі і належнымі яму палямі. Калі ў выніку частых войн і іншых пагібельных падзей з канца XV – пачатку XVII стст. рэзка павялічыўся попыт на харч як у ВКЛ, так і за яго межамі, значна пашырыліся так званыя «панскія засеўкі». З сярэдзіны XVI ст. на Беларусі пачала складвацца фальваркава-паншчынная сістэма, пры якой у развітай панскай гаспадарцы пашырылася вырошчванне многіх прадуктаў на продаж. Гэты працэс абумовіў тэндэнцыю, калі гаспадаркі пачалі пераходзіць ад натуральнай і грашовай рэнты да так званай «адработачнай», а разам з тым узмацнілася запрыгоньванне сялян, а феадальная гаспадарка пачала рэарганізоўвацца на аснове валочнай памеры (пра гэта «КГ» пісала неаднаразова. – Рэд.). Засеўкі на панскім полі звычайна павялічваліся за кошт лепшых сялянскіх зямель (адтуль і на Беларусі ўзнікла прымаўка з пачаткам тыпу «Працуй, дурань...»).

Паводле «Уставы на валокі» 1557 г. суадносіны панскай і сялянскай ворнай зямлі павінны былі складаць прапорцыю 1 да 7. На Беларусі фальваркавую сістэму ўрад Расійскай імперыі ліквідаваў сваёй рэформай 1861 г., што, з аднаго боку, вызваліла сялян ад многіх прымусовых метадаў прыгоннасці, а, з другога, прывяло вясковых насельнікаў да новай супярэчнасці паміж імі і ўладай.

**ФАЛЬШЫВАМАНЕТНІК** – асоба, якая дазваляла сабе падрабляць грашовыя знакі ВКЛ. Але, зразумела, гэты хітрык не мог цалкам забяспечыць свае падробкі сапраўдным дзяржаўным дакументальна-заканадаўчым выяўленнем. Розніцы з сапраўднай і фальшывай манетамі ў ВКЛ выяўляла спецыяльна створаная камісія, якая прафесійна вывучала ўвесь аспект пытанняў (карыстацца на Беларусі фальшывымі грашыма не грэбавалі заваёўнікі з Польшчы, Расіі, Швецыі, Францыі; Напалеон у вайне 1812 г. літаральна наваднiў акупаваныя часткі Расійскай імперыі фальшывымі асігнацыямі, якімі двудушна расплачваўся і з тымі, хто паверыў у яго розныя прыемныя абяцанні і верна служыў яму).

Ступень падабенства фальшывай манеты з сапраўднай залежала ад узроўню майстэрства дзяржаўнага зламысніка. Найбольш цяжка было адрозніць падробку тых, хто непасрэдна працаваў у манетных дварах, якія пры гэтым карысталіся сапраўднымі штэмпелямі. Фальшываманетнікі-саматужнікі і тыя, хто прафесійна працаваў на манетным двары і абвінавачваліся ў фальсіфікацыі манет, паводле суровага на гэты конт закону, прысуджаліся да спалення. Такое ж строгае пакаранне было вызначана і для асоб, якія абрэзвалі сапраўдныя залатыя і срэбраныя манеты.

# Янка Цвік
## Слынны зямляк

***Імя ўраджэнца зямлі бярэзінскай, выхадца з вёскі Падваложка прынесла славу бацькаўшчыне і ўсяму былому Саюзу, унесла ўклад у развіццё беларускай мовы і літаратуры ў свеце. Беларускі пісьменнік Янка Цвік (Іван Зіноўевіч Бабіновіч) нарадзіўся 5 снежня 1893 года ў вёсцы Падваложка ў сям'і ўнука першых пасяленцаў Бабіновічаў. Бацька здолеў даць сыну адукацыю. Іван скончыў Багушэвіцкую школу. Займаўся ў 3-класнай настаўніцкай гімназіі, пасля яе заканчэння працягваў вучобу ў Пінску на аднагадовых настаўніцкіх курсах. Пасля атрымання адукацыі ў 1914 годзе працаваў настаўнікам у вёсцы Лазавое Чэрвеньскага раёна. У 1915 годзе быў мабілізаваны ў царскую армію.***

Іван Зіноўевіч заканчвае ваеннае вучылішча і ў чыне прапаршчыка трапляе на румынскі фронт. Баі... Тыф... Шпіталь... Зноў фронт. Пасля заканчэння вайны застаецца служыць у арміі ва Украіне. Там жа, ва Украіне, ён знаёміцца са сваёй будучай жонкай – Марыяй Аляксееўнай.

Адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя. Іван Зіноўевіч разам з жонкай вяртаецца ў родную вёску. У 1917 годзе ў сям'і нараджаецца сын Лёня. Сын пасля заканчэння школы вучыцца ў Куйбышаўскай ваеннай акадэміі. Заканчвае акадэмію напярэдадні вайны. Малады лейтэнант адразу трапіў на фронт і ў баях пад Масквой прапаў без вестак.

У 1921 годзе ў сям'і Бабіновічаў нарадзілася дачка Валя. Яна, скончыўшы школу, вучыцца ў Маскоўскім педагагічным інстытуце. Пасля заканчэння інстытута, у 1940 годзе, працуе настаўніцай у Бярэзінскай школе, а потым у Папляўскай. Тут яе застае вайна. Разам з моладдзю раёна яна была вывезена на прымусовыя работы ў Германію. Пасля вызвалення амерыканцамі ў 1945 годзе вярнулася дадому. Пераехала ў Мінск, працавала настаўніцай, затым экскурсаводам па гістарычных мясцінах.

Іван Зіноўевіч Бабіновіч з 1918 па 1921 гады працуе ваенным камісарам у Хутарскай воласці Чэрвеньскага раёна. У 1921 годзе вяртаецца да настаўніцкай дзейнасці. Працуе ў Падваложскай, а затым у Неганіцкай школах, з'яўляецца адданым паплечнікам беларусізацыі. У час рэпрэсій сям'я Бабіновічаў, ратуючыся ад знішчэння, пакідае родную вёску.

У 1926 годзе пасля заканчэння курсаў па падрыхтоўцы настаўнікаў-беларусаў Бабіновіч накіраваны Наркамасветы БССР у Сібір для арганізацыі навучання роднай мове дзяцей перасяленцаў-беларусаў. Закінуў лёс сям'ю Бабіновічаў у беларускае сяло Бальшарэчка Балотненскага раёна Навасібірскай вобласці. У сяле жылі амаль адны беларусы, выхадцы з Мінскай і Магілёўскай губерняў. Адзін канец вуліцы называўся Міншчынай, другі – Магілёўшчынай. На Міншчыне была пачатковая школа ў наёмных сялянскіх хатах, дзе і стаў працаваць Іван Зіноўевіч са сваёй жонкай, таксама настаўніцай. Цікава, што ў той даволі бедны і цяжкі час (1920-я гады) Наркамасветы БССР знаходзіў сродкі і магчымасць забяспечваць школы беларускімі падручнікамі ў іншых рэгіёнах Саюза, нават у далёкай Сібіры.

У 1930 годзе Іван Зіноўевіч арганізаваў сялян пабудаваць новы прасторны будынак школы (у сямейным архіве захоўваецца фотаздымак). Сямігадовая школа стала сапраўдным цэнтрам беларускай культуры. Тут была добра наладжана мастацкая самадзейнасць, ставілі на сцэне п'есы «Збянтэжаны Саўка», «Мікітаў лапаць», спявалі беларускія песні, танцавалі «Бульбу», «Лявоніху», «Мікіту», выпісвалі беларускія часопісы і газеты. У 1928 годзе набылі нават 2-лямпавы радыёпрыёмнік і слухалі перадачы з Беларусі.

Іван Зіноўевіч пачынае пісьменніцкую дзейнасць. Яго першыя творы друкуюцца ў 1928 годзе пад псеўданімам Янка Цвік на старонках газет і часопісаў. У літаратурным дадатку «Чырвоны сейбіт» да газеты «Беларуская вёска» надрукаваны два нарысы «Самаход» і «Гасціннасць» пад агульнай назвай «У Сібірскіх прасторах». Рэдакцыя паведамляе: «Гэтыя нарысы не прэтэндуюць на тое, каб даць поўны малюнкі жыцця перасяленцаў у Сібіры, або адносіны тамашніх жыхароў да перасяленцаў. Яны толькі з'яўляюцца апісаннем некаторых здарэнняў. Аўтар гэтых нарысаў сталы супрацоўнік нашае газеты і "Чырвонага сейбіта", беларус з Бярэзіншчыны. Цяпер ужо некалькі год жыве і працуе ў Сібіры, дзе цэлымі вёскамі, а месцамі і валасцямі, жывуць беларускія сяляне-перасяленцы».

Героі нарыса «Самаход» Янка Кісель і Хведар Таруха прыемна адзначаюць прыгажосць і багацце сібірскага краю, яго тайгу, «слынь – роўнае, гладкае поле, зарослае густою высокаю травою, з рэдкімі засевамі жыта, пшаніцы, яркі і аўса. Засевы былі добрыя – рослыя і ішлі ў колас, бо час быў каля "Пятры"». І калі адзін з чалдонаў задумаў прыстрашыць самаходаў сібірскімі камарамі, Янка Кісель адказаў за сябе і сябра: «Ну, камароў мы не баімся. Нам зямлі бы толькі ўволю. Адвечная мара беларускага селяніна аб зямлі! А яе тут шмат. Работы селянін-беларус не баіцца».



У нарысе «Гасціннасць» Лаўрэн Дрот прыглядаецца да жыцця карэнных сібіракоў. Ён заўважае ўсё: і тое, што ў двор гаспадар увагнаў дзве фурманкі, што гаспадыня «смажа» на масле піражкі з тварагом, што ў хаце ёсць «пузаты медны самавар», хата на дзве палавіны, усё пафарбаванае жоўтай фарбай, два ложкі з гарой падушак, вазоны, а гарбату п'юць забеленую малаком. Жывуць, па ўсім відаць, у добрым дастатку. Але скупыя, бо не прапанавалі нават кубак гарбаты. А ў торбе Лаўрэна ўжо нічога не было. Крыўдна. «У нас не такія людзі», – думае герой. Адчуваецца, што Лаўрэн Дрот на гэтай зямлі здолее зажыць не горш за чалдонаў.

Іван Зіноўевіч Бабіновіч шмат зрабіў у свой час для ажыццяўлення беларусізацыі ў Сібіры. Але хутка пачалося ганенне на беларускую мову, і ў 1936 годзе школу перавялі на рускую мову навучання. А яе загадчыка, Івана Зіноўевіча, абвінавацілі ў нацдэмаўшчыне. Быў вобыск, забралі шмат папер, магчыма, і каштоўных, звязаных з яго супрацоўніцтвам з «Беларускай вёскай», «Чырвоным сейбітам» і інш. Навісла пагроза арышту. Сябры раяць яму змяніць месца жыхарства. З таго часу сям'і Бабіновічаў шмат дзе прыйшлося жыць і працаваць: у Казахстане, Узбекістане, на Далёкім Усходзе.

Няглядзячы на ўсе выпрабаванні лёсу, вярнуўшыся ў Беларусь, Іван Зіноўевіч працягвае пісаць. Блізка знаёміцца з Я. Купалам, Я. Коласам, К. Чорным, М. Гарэцкім. У сямейным архіве захоўваецца другое выданне паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка» з дароўным надпісам пісьменніка «Дарагім Мары і Янку Бабіновічам ад Якуба Коласа. 17/VII – 28 г.», паштоўка ад Міхася Гарэцкага з надпісам «Беларусь, Горкі. / 11/IV – 1928 г. / Янку Бабіновічу / М. Гарэцкі», фотаздымак 1928 года, дзе ля драўлянага дома Я. Коласа сфатаграфавана група настаўнікаў-сібіракоў, беларусаў разам з паэтам.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Іван Зіноўевіч разам з сям'ёй зноў на радзіме – у Падваложцы. І хаця яму пад пяцьдзесят, але ён быў сувязным партызанскай брыгады Каралёва. Калі дачку вывезлі ў Германію, то пад выглядам здабыцця звестак аб дачцы ён часта ходзіць у Паплаўскі нямецкі гарнізон і адтуль звесткі аб ворагах перадае ў лес партызанам.

Пасля вайны сям'я Бабіновічаў жыве доўгі час на станцыі Талачын Барысаўскага раёна. У 1953 годзе Іван Зіноўевіч разам з жонкай едзе пагасціць да сяброў у Казахстан, але Марыя Аляксееўна ў дарозе захварэла і памерла. Паколькі гэта было летам і стаяла спякота, то яе перавозіць не было магчымасці – пахавалі ў Казані, на могілках каля чыгуначнай станцыі.

Іван Зіноўевіч жыве ў Талачыне. Часта наведваецца ў родную вёску. Знаёміцца з клапатлівай жанчынай Груняй. Лёс зноў прыводзіць яго ва Украіну, на радзіму Груні ў горад Нікапаль, дзе і праходзяць яго апошнія гады жыцця.

Памёр Іван Зіноўевіч Бабіновіч 10 студзеня 1979 года ў Нікапалі. Выконваючы апошняе жаданне пісьменніка, яго пахавалі на радзіме, на вясковых могілках каля вёскі Дамашкі Бярэзінскага раёна. На магіле стаіць помнік з фотаздымкам. Сюды кожны год прыходзяць яго родзічы: сястра, пляменнікі, унукі, якія жывуць у роднай Падваложцы, вяскоўцы. Прыходзяць аддаць даніну павагі вядомаму земляку – слыннаму не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі.

У Новінскай сельскай бібліятэцы сабраны матэрыял аб жыцці і творчасці беларускага пісьменніка, земляка Івана Зіноўевіча Бабіновіча – Янкі Цвіка. З кожным годам усё больш прамежак часу аддаляе нас ад таго перыяду, калі жыў і тварыў Янка Цвік, але памяць аб ім застанецца ў нашых сэрцах і будзе перадавацца нашчадкам.

***Факты біяграфіі слыннага земляка ўдалося ўзнавіць, дзякуючы ўспамінам родзічаў: дачкі Валянціны Іванаўны Бабіновіч, сястры Міланні Зіноўеўны Нявай, пляменніка Мікалая Андрэевіча Путрыка і пошуку членаў краязнаўчага клуба «Радзімічы» пад кіраўніцтвам бібліятэкара Новінскай СБ Галіны Іванаўны Кіклевіч.***

*Наталля МАЕЎСКАЯ, метадыст Бярэзінскай ЦБС*





*Прапануем увазе чытачоў урывак з раздзела «З гісторыі вёскі Велута».*

*Што значыць слова «Велута»? Тапанімічны слоўнік пад рэдакцыяй В.А. Жучкевіча (Мінск, Выдавецтва БДУ, 1974) дае наступнае тлумачэнне: «...вёска Лунінецкага раёна. У аснове назвы ляжыць паўднёва-беларускае і паўночна-украінскае ВЕЛЕТ (ВЕЛЕТА, ВЕЛЕТЕНЬ) – асілак, гігант».*

*Але не выключаецца магчымасць і іншага тлумачэння. У тым жа слоўніку можна прачытаць: «...тэрмін ЛУТ, ЛУТА – лыка маладой ліпы, рагожа», з якой пляліся лапці, розныя кашыкі, кашы і іншы гаспадарчы інвентар.*

*Такое ж тлумачэнне слову ЛУТА дае і слоўнік Даля.*

*Побач з вёскай цячэ ціхая лясная рэчка Цна, якая потым упадае ў Прыпяць. Некаторыя даследчыкі лічаць, што назвы рэк Дзясна, Тсна, Цна паходзяць з адной старой славянскай асновы, якая значыць «вузкі». Існуе і прыгожая легенда.*

# Легенда пра Велуту

Кажуць, што назву нашай вёсцы даў адзін чалавек-асілак, якога звалі Вялута. У надзвычай даўнія часы ўсё гэта адбывалася. Пераказвалі яе людзі. Паслухайце і вы.

Аднекуль на Беларусь у той далёкі час прыйшло цэлае племя велетаў, якое паступова рассялілася па ўсёй нашай зямлі. Надта многа было асілкаў, то яны нікога не баяліся. Крыкнуць адзін аднаму сваімі магутнымі галасамі, калі самі не спраўляюцца, і дапамога ўмомант прыспее. Тут і канец ворагам. Але найболей кожны асілак сам са сваімі супернікамі спраўляўся. Справай уласнага гонару гэта ў іх лічылася. Толькі з ворагамі яны бязлітасна абыходзіліся, а так надзвычай добразычлівымі былі, нікому зла не чынілі, наадварот, дапамагалі ў цяжкія часы і ад голаду, і ад смерці выратавацца.

Жыў у нашым лесе Вялута. Таксама прыйшоў з чужых краёў, а каб не крыўдзіць мясцовых, то не пайшоў да іх у вёску прасіцца, хоць яму, канечне, не адмовілі б. Пасяліўся ў самай глухамані. Расказвалі, што надта ж ён не любіў на полі жыць, да лесу яго цягнула. Жылля там не было, то ён спачатку пабудаваў сабе зямлянку, але куды такому асілку туды лазіць! Таму, памучыўшыся крыху, вырашыў хаціну ўзвесці. Пайшоў па пушчах. Пахадзіў, пахадзіў, выглядзеў, дзе стаяць неабходныя яму лясіны. На наступны дзень вырашыў зносіць іх на пляц, дзе меркаваў узвесці будынак. Месца, здавалася, выбраў Вялута для гэтага ўдалае – пагорак сярод лесу ўздымаўся, а ля ягонай падэшвы невялічкая крынічка цякла; побач, крыху ўбаку, свяцілася вялікая паляна.

Стаў дрэвы нарыхтоўваць. То, думаеце, як ён гэта рабіў? Падыдзе да высачэзнага дуба, абыдзе яго, паляпае далонню па шурпатым ствале, абшчаперыць рукамі і вывалача разам з каранямі. Тут жа карэнне паадкручвае, голле паабломвае, пакладзе ствол на плячо і нясе, нібы жэрдку якую. Ды не дзесятак крокаў, а вёрстаў пару, бо побач з будучай сядзібай не жадаў пушчу псаваць. Так за тыдзень і нацягаў на плячах бярвёнаў на хаціну. Потым задумаў камянёў на падмурак назбіраць. Але ў нас іх не надта многа ў наваколлі і тады было, таму Вялута дзеля гэтага не адну сотню вёрстаў прайшоў, пакуль не пазнаходзіў. Што нехта апярэдзіць і забярэ – ён не баяўся. Хто мог узняць такую камянюку, калі яна сабою добры стог нагадвае? Пачаў іх збіраць асілак. Ідзе сабе дахаты і нагой падбівае камень, які, нібы мячык, коціцца, толькі на пагорках падскоквае. Па тых сцежках потым людзі дарогі добрыя парабілі, бо і лес церабіць не трэба было.

Волат сам хаціну рабіў. Ніхто яму не дапамагаў. Адыдзе ўбок, палюбуецца і далей шчыруе. Збудаваў сабе такі ладны палац, што здалёк відаць стала: высокі, светлы, прасторны, прыгожы. Чаму б не жыць у такой харамаціне.

Пачуе, што дзесьці людзям есці не хапае, ад голаду пухнуць, то звяроў настраляе ды за ноч у іхнюю вёску наносіць. Прачнуцца тыя, ажно бачаць: столькі ежы ляжыць, што год смела жыць можна. На першых часах нават не ведалі, каму дзякаваць. Потым здагадаліся і, азіраючыся ўбок пушчы, нізка





*Вясковы фотамайстар Дзям'ян ДРАБОВІЧ і ягоныя працы: «Басаногае дзяцінства» і «Арэхва Даніл і Каця. Надвячорак»*

кланяючыся, казалі:

– Дзякуй табе, Вялута! Дзякуй, што выручыў з бяды-гора! Ты не думай, мы адпрацуем. Вось толькі свае справы паправім і адпрацуем. Дзякуй, паклон нізкі, волаце, да зямлі самай прымі!

– Ды чаго там, людзі! Кіньце дурное! Жывіце здаровыя і шчаслівыя! Працаваць на сябе я сам буду! – неслася аднекуль здалёку. Здавалася, што гаварыў гром з паднябесся, гэткі моцны голас чалавек-асілак меў.

Вось так і жылі па-суседску. Аднаго разу прыбеглі да Вялутавага палаца сяляне з далёкай вёскі, упалі на калені перад ім, скардзяцца:

– Выратуй нас, добрая душа. Панаехаў пан злы са сваімі слугамі, б'е-забівае, апошняе адбірае, нікога не шкадуе, што толькі хоча, тое і вырабляе, бо на сваю шкуру ўправы не мае. Дапамажы, Вялута. Да канца жыцця маліцца за цябе будзем.

– Дапамагчы можна, – крэкнуў асілак. – Чаму б не дапамагчы, калі такі злыдзень да вас нарваўся. Даравацъ, вядома ж, нельга. Зробім так. Вы ідзіце сабе дамоў. Ды ў хаціны не лезьце, перачакайце дзе-небудзь у бліжэйшым лесе, а я тым часам што-небудзь прыдумаю. Дагнаць вас я ўсё роўна паспею.

– А ці не падманеш ты нас, Вялута? Няма болей нікому за нас, абяздоленых, заступіцца, – у адзін голас засакаталі спалоханыя сяляне. – Як жа мы да сваіх у вёску з'явімся, калі дапамогі не прывядзём?

– Не бойцеся, не падману! Трэба толькі памеркаваць крыху, як усіх тых рабаўнікоў вылавіць, каб не паразбягаліся, ды і іншым замовілі сюды лезці. Не бойцеся, не падвяду. Нікога я ў жыцці не падводзіў, тым болей, калі бедныя, абяздоленыя па дапамогу звярталіся!

– Ну, то мы пабеглі, волаце! – радасна ўсклікнулі вяскоўцы.

– Бяжыце, бяжыце, – загуў у адказ Вялута, пасміхаючыся аднымі вачыма, гледзячы на




*Такім мог бы быць сімвалічны знак в. Велуты*

тое, як шпарка аддаляліся абнадзеяныя людзі. – Я таксама зараз рушу, вось толькі вяроўку сваю вазьму.

Пан наглядаў, як ягоныя слугі ганяліся за жывёлай вяскоўцаў, цягалі на вазы ўсё, што маглі. Некаторыя ўжо бегалі за жанчынамі ды за дзяўчатамі.

– Так вам і трэба, хлопы! А то параспускаліся, бо даўно я тут не быў! Бачыш ты, яны падатак плоцяць – і хопіць! Ды колькі захачу, столькі і забяру! Голымі вас пакіну, каб ведалі, ад каго залежыце, псяюхі!

Вёска спачатку крычала, потым пачала паступова заціхаць і нарэшце ледзь чутна, як і ў даўнейшыя часы, заплакала горкімі слязьмі. Толькі і чуваць было, што крыкі рабаўнікоў.

Пад вечар абоз выправіўся ў дарогу. Наперадзе ў хвацкім фаэтоне ехаў сам пан. За ім цягнуліся шматлікія вазы з дабром, пылілі статкі жывёлы, забранай у вяскоўцаў.

Едуць яны сабе, нават і не здагадваюцца пра небяспеку, а яна тут вось – побач. Загуло нешта, засвістала і цяжка грохнула перад абозам. Загігікалі ўспуджаныя коні, кінуліся рвацца ўбакі. Ледзьве іх стрымалі. Ажно зноў загуло-затрашчала і ззаду абоза гопнуўся вялізны, нібы хата, камень і загарадзіў сабой дарогу. І тут такое пачалося! Нейкі магутнага целаскладу мужчына хадзіў уздоўж вазоў і лупасіў кулакамі па галовах панскіх паслугачоў. Сам гаспадар абоза бег наперадзе незнаёмца, і той раз-пораз лупіў яго пад азадак сваім здаравенным лапцем. Тады памешчык ляцеў, не дакранаючыся да зямлі, крокаў сто і зноў кідаўся бегчы, каб не загінуць пад вялізнаю нагою.

Усё вярнуў людзям Вялута, нават панскіх коней і вазы пааддаваў вяскоўцам. Дзякавалі, як маглі, яны, а ён толькі пасміхаўся, закручваючы даўжэзны вус.

– Чаго ўжо там дзякаваць! Жывіце, родныя, вольна ды багата! Чаго ў суседстве не бывае!

Вось такі асілак Вялута тут даўным-даўно жыў. Добры надта быў, таму людзі ягонае імя да гэтых часоў з удзячнасцю згадваюць.

Калі памёр волат, то пахавалі яго на той самай гары, дзе быў палац. Пазней на тым месцы поле стала, людзі жыць пачалі, але памяць пра Вялуту назаўсёды захавалі. Назвалі так сваё вёску.

А вось яшчэ легенды з гісторыі вёскі Велута былога вучня, сёння студэнта БДУ Рамана Каховіча.

«Слова "Велута" паходзіць ад слова "вялікі Лут", што азначае "волат". Я пачуў іншую версію пра паходжанне нашай вёскі Вялута. Гэтым цікавілася мая цётка Вера Паўлаўна Каховіч, яна ў юнацтве пыталася ў свайго бацькі Паўла Адамавіча Каховіча і ў больш сталым узросце ў старэйшых людзей вёскі.

І вось што ёй расказаў яе бацька, а мой дзядуля. Ён таксама цікавіўся ў старых людзей таго часу, што азначае слова Велута. Яны адказвалі, што назва вёскі паходзіць ад назвы дрэва ліпы. У тыя даўнія часы на мясцовым дыялекце ліпу называлі лут. Калі прыйшлі першыя пасяленцы ў нашыя мясціны, яны размясціліся каля вялікага лута, але тут каля ліпы рос цэлы ліпнік. Гэта прыкладна знаходзілася ў Балушы, ля старой школы, магазіна старога і новага, пачатку Булічы да Драбовіча Дзям'яна (Вcase) Боровская.

Гэта самае высокае і спрыяльнае месца для паселішча, таму што вакол былі непраходныя балоты і неабсяжныя лясы. Вакол Вялікага лута раслі маленькія ліпкі. З гэтых ліпак, а дакладней, пабегаў, нашы продкі здзіралі кару і рабілі вушкі для лапцяў, якія былі больш трывалымі, чым з лазы, і якія ў той час з'яўляліся дэфіцытам. Іх спачатку рыхтавалі зімой, затым варылі, потым здзіралі кару, тады і атрымліваўся патрэбны матэрыял для лапцяў. Як расказваюць людзі, сюды прыйшлі і пасяліліся чатыры сям'і. Адкуль яны прыйшлі, ніхто не ведае. Аб гэтым расказвалі майму дзядулі Фёдар Якаўлевіч Каховіч і Адам Раманавіч Каховіч. Аб гэтым таксама расказваў маёй цётцы Піліп Сцяпанавіч Арэхва.

І я з гэтай гіпотэзай згодны больш, чым з афіцыйнай аб волаце, бо гэта можна абгрунтаваць наступным чынам. У тыя далёкія часы, калі людзі шукалі новыя мясціны для жыхарства і не было добрых шляхоў зносін, яны перамяшчаліся ў асноўным па вадзе ў пошуку новых месцаў жыхарства, якія павінны былі даць магчымасць абсталявацца і жыць. І гэтыя мясціны павінны былі адпавядаць некаторым патрабаванням таго часу.

Па-першае. Магчымасць звязвацца з роднымі і іншымі людзьмі. У тыя часы вада, магчыма, была адзіным шляхам зносін.

Па-другое. У той час адзіным абуткам былі лапці, якія рабіліся з кары лазы і ліпы. Таму, верагодней за ўсё, першыя пасяленцы выбіралі тыя мясціны для жыхарства, дзе раслі ліпы і лозы. Пасяліўшыся тут, яны падтрымлівалі сувязь з блізкімі альбо знаёмымі. На пытанне іх, дзе яны жывуць, яны, магчыма, адказвалі: «Трэба плысці па рацэ (хаця, можа, была і дарога), і калі ўбачыце Вялікі Лут, там мы і жывём». З цягам часу назва скарацілася ў Вялуту.

Па-трэцяе. Волат – так называюць некаторых людзей. Гэта азначае, што нехта даведаўся, што там жыве волат, і сказаў: «Там жыве Вялікі Лут» – што мала верагодна. Часцей людзі самі даюць назвы вуліцам і мясцінам, на якіх мы жывем, дзе бываем, – Заброддзе, Задуб'е, Пашчана, Чорны Брод, Сосінкі, Залессе і інш. Некаторымі назвамі мы зараз карыстаемся, хаця гэтых прыкмет няма».

У розныя часы вёска называлася так:

*Велута – 1588, 1612 гг.*
*Велюта – 1795 г.*
*Велуто – 1886 г.*
*Волута, Валута – у савецкія часы (1939–1965 гг.)*

***Іван ПАНАСЮК***
***(Паводле кнігі «Велута»)***





Царкоўнае краязнаўства

# Цэрквы і прыходы Лоеўшчыны

***Надзвычай важная роля ў жыцці гарадоў, мястэчак і сёл Беларусі заўсёды належала культавым збудаванням. Яны былі не толькі рэлігійнымі і соцыякультурнымі цэнтрамі, але і вызначалі архітэктурнае аблічча населеных пунктаў. У канцы XIX стагоддзя на Лоеўшчыне існавала 8 праваслаўных храмаў, касцёл і 4 сінагогі.***

Паводле перапісу 1897 года, у Лоеве налічвалася 508 хат, 4 667 жыхароў, з іх 2 150 яўрэяў. З чатырох драўляных будынкаў сінагог, якія існавалі ў мястэчку, зараз не захавалася ніводнага – усе былі разбураны пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, а іх апісання не засталося.

Не захаваўся і адзіны ў гэтым краі касцёл, які размяшчаўся на высокім беразе Дняпра на Лоеўскім замчышчы. Вядома, што пабудаваны ён быў з дрэва, атынкаваны глінай, пафарбаванай у белы колер, і адносіўся да парафіі рэчыцкага Свята-Мікольскага касцёла бернардзінцаў. Касцёл быў разбураны ў пачатку XX стагоддзя.

Да нашага часу, на жаль, таксама не захавалася ніводнага будынка праваслаўных храмаў той пары. Царкоўныя пабудовы на Лоеўшчыне былі драўляныя. Усе знішчаны за гады савецкай улады і нямецка-фашысцкай акупацыі. Захавалася не шмат звестак аб гісторыі стварэння цэркваў краю, іх архітэктурных асаблівасцях і інтэр'ерах. Важную інфармацыю наконт гэтага ўдалося знайсці ў кнізе А.В. Таварава «Историко-статистический справочник. Книга Минской епархии», выдадзеная ў Мінску ў 1903 годзе, а таксама ў «Памятной книжке Минской губернии на 1913 год».

Вядома, што для традыцыйнага драўлянага царкоўнага дойлідства былі характэрныя два тыпы храмаў: трохзрубны, падоўжана-восевай кампазіцыі, з адкрытым у інтэр'еры купалам-барабанам і прыбудаванай на галоўным фасадзе яруснай званіцай, і цэнтрычны, крыжападобны ў плане, з прыбудаванай яруснай званіцай. Існавалі на Лоеўшчыне два гэтыя тыпы храмаў.

***Галоўным праваслаўным храмам з'яўляецца Свята-Троіцкі сабор у Лоеве.*** Першапачаткова размяшчаўся ён у цэнтры горада на Гілевай гары, на адлегласці 200 метраў ад Дняпра. Сабор быў пабудаваны ў 1838 годзе на месцы разабранай старой царквы. У 1864-м да яго была прыбудавана званіца, а ў 1870 – новы прыдзел у памяць выратавання жыцця расійскага імператара.

15 лютага 1931 года сабор быў закрыты бальшавіцкай уладай, званы здадзены на металалом, большасць маёмасці знішчана, часткова перададзена культасветустановам. Будынак разбураны, а на яго месцы пабудавана школа.

У 1946 годзе вернікі дамагліся дазволу на адкрыццё храма ў Лоеве. Яны купілі зруб і адбудавалі Свята-Троіцкую царкву на новым месцы, на старых Троіцкіх могілках у паўднёва-заходняй частцы горада. Была яна з дрэва і мела невялікія памеры.

5 чэрвеня 1990 года настаяцелем Свята-Троіцкага сабора протаіерэем Міхаілам Мандрыкам драўляны будынак царквы быў абкладзены цэглай. Будаўніцтва сцен, даху, купалоў і крыжоў было завершана 21 лістапада 1990 года. Пабудаваны храм на сродкі прыхаджан, мясцовымі рабочымі і вернікамі з чырвонай цэглы, зробленай на тамтэйшым заводзе, і абліцаваны белай цэглай. Храм цэнтрычны, крыжападобны ў плане з надбудаванай на галоўным фасадзе яруснай званіцай.

У 1993 годзе каля сабора была пабудавана званіца, цовай уладай у 1937 годзе, а яе сцены пайшлі на будаўніцтва памяшкання міліцыі. У 1956 годзе падмурак царквы і падземныя царкоўныя скляпенні былі скінуты бульдозерам у Дняпро пры падрыхтоўцы пляцоўкі пад будаўніцтва Палаца культуры.

У 1998 годзе па ініцыятыве настаяцеля Свята-Троіц адрэстаўраваны вароты і агароджа. У 1997-м завершана афармленне трох іканастасаў сабора жывапісам, разьбой і пазалотай.

Угорадзе ў 1746 годзе на Лоевай гары, у паўднёвай частцы замчышча, была пабудавана ***Свята-Мікольская царква.*** У 1874 годзе гэты храм быў капітальна перароблены і ўяўляў драўляны будынак, узведзены на мураваным фундаменце і пакрыты жалезным дахам. У пачатку XX стагоддзя вернікаў налічвалася наступная колькасць: 1 782 мужчыны і 1 784 жанчыны. Пры царкве працавала жаночая царкоўна-прыходская школа. Свята-Мікольская царква была разрабавана і разбурана мяскага сабора Міхаіла Мандрыка на месцы Свята-Мікольскай царквы ўстаноўлены драўляны шасціканцовы крыж, а ў 2005 годзе тут узведзена капліца.

***Свята-Мікольская царква*** існавала і ***ў вёсцы Дзяражычы***, каля берага Дняпра. Час яе адкрыцця невядомы, але можна меркаваць, што гэты храм адзін з самых старажытных на Лоеўшчыне. У 1828 годзе тут на сродкі прыхаджан быў узведзены новы драўляны будынак храма на каменным падмурку і з жалезным дахам. У царкве захоўвалася Евангелле, выдадзенае ў Маскве ў 1735 годзе. У архіве меліся спісы прыхаджан за 1794 год. У 1858 годзе царква была капітальна адрамантавана за кошт сродкаў вернікаў. Вядома, што селянін суседняй вёскі Бывалькі Іван Антонавіч Самойленка ахвяраваў тады 1 254 рублі. Гэта была на той час вялікая сума грошай.



Свята-Троіцкая царква (фота з бюлетэня «Карані»)



Бітва пад Лоевым 1649 года (гравюра XVII стагоддзя)

У канцы XIX стагоддзя настаяцелем Свята-Троіцкай царквы ў Дзяражычах служыў Восіп Гарбацэвіч, які скончыў духоўную семінарыю. Пры царкве працавала папячыцельства. Храм быў закрыты і разбураны ў 30-я гады мінулага стагоддзя. Цяпер вернікамі на яго месцы ўстаноўлены крыж.

***Свята-Мікольская царква*** дзейнічала ***ў вёсцы Казімiраўка.*** У 1872 годзе там быў узведзены на сродкі прыхаджан новы драўляны будынак храма з жалезным дахам на мураваным фундаменце. Паводле царкоўных звестак, у 1879 годзе прыход налічваў каля 1,7 тысячы прыхаджан. Пры царкве працавала папячыцельства і царкоўна-прыходская школа. У яе архівах захоўваліся спісы прыхаджан за 1795 год. Настаяцелем храма быў А. Кульчыцкі. У 1886 годзе царква была перабудавана. Царкоўны прыход складалі жыхары 5 вёсак, прыхаджан налічвалася 1 406 мужчын і 1 624 жанчыны. Храм быў закрыты ў 30-я гады мінулага стагоддзя і пераабсталявана пад школу. У 1996 годзе царква адноўлена ў суседняй вёсцы Пярэдзелка.

***Свята-Узнясенская царква*** існавала ***ў вёсцы Ручаёўка.*** У 1872 годзе ў Ручаёўцы быў узведзены на каменным фундаменце з дрэва і з жалезным дахам новы будынак 5-купальнай царквы, на будаўніцтва якой прыхаджане ахвяравалі 6 тысяч рублёў. Стары будынак быў перавезены і ўстаноўлены ў вёсцы Крупейкі. У 1879 годзе Ручаёўскі прыход налічваў каля 5,7 тысяч прыхаджан. Тут сярод кніг былі Служэбнік, выдадзены ў Кіеве ў 1791 годзе і Евангеллі, выдадзеныя ў Маскве ў 1805 і 1863 гадах. Ручаёўскі царкоўны прыход складалі вернікі 19 вёсак, прыхаджан налічвалася 2 940 мужчын і 2 833 жанчыны. Храм узарваны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 годзе.

***У вёсцы Уборкі*** дзейнічала ***царква Нараджэння Багародзіцы.*** Была яна пабудавана з дрэва ў 1892 годзе. Прыход складалі вернікі 16 вёсак, прыхаджан на 1905 год было 1 919 мужчын і 1 859 жанчын. Пры храме была адкрыта двухкласная царкоўна-прыходская школа. Царква згарэла восенню 1943-га, у 2003 годзе яна была адноўлена.

***Свята-Георгіеўская царква*** існавала ***ў вёсцы Хамінка.*** Пабудавана з дрэва ў 1798 годзе ў цэнтры вёскі. Храм быў разбураны ў кастрычніку 1943 года падчас баёў за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

***Каля вёскі Крупейкі*** існавалі ***царква і капліца.*** Размяшчаліся яны каля крынічкі са святой вадой на паўднёвы захад ад вёскі. Царква адносілася да лоеўскага прыхода Свята-Троіцкага сабора. Капліца была пабудавана ў гонар Святой Вялікамучаніцы Параскевы. Існуе паданне, што некалі каля крынічкі на сасне тройчы было ўяўлене іконы Святой Вялікамучаніцы Параскевы. Гэта паслужыла падставай для будаўніцтва вернікамі на гэтым месцы капліцы. У 1872 годзе каля яе паўстала драўляная царква, перавезеная з Ручаёўкі. Каля капліцы і царквы штогод на «Дзесятуху» – у дзесятую нядзелю пасля Вялікадня ў пятніцу і суботу – адбываліся двухдзённыя кірмашы і гулянні. У гэтыя дні да святой крыніцы прыходзілі многія паломнікі, напрыклад, з Украіны, Расіі.

У савецкія часы царква і капліца былі разбураны, крынічка высахла. У 1997 годзе ініцыятываю протаіерэя Міхаіла Мандрыка была адноўлена капліца і зроблена, на жаль, безвыніковая спроба аднавіць крыніцу.

У «Памятной книге Минской губернии на 1913 год» ёсць звесткі, што ў 1912 годзе на Лоеўшчыне існавалі яшчэ дзве царквы і прыходы, прыпісаныя да другой благачыннай акругі Стрэлічаўскай царквы Рэчыцкага павета: ***Баршчоўская царква***, у якой святаром быў спачатку Мікалай Кацельнікаў, а затым Мікалай Былінскі, і ***Бывалькаўская царква*** – святар Яфрэм Марчанка. Іншых звестак аб гэтых цэрквах пакуль не знойдзена.

***Мікалай АНІСАВЕЦ,***
***старшыня праўлення Лоеўскага грамадскага аб'яднання садзейнічання захаванню навакольнага асяроддзя і культурна-гістарычнай спадчыны «Карані»***





***Серыяй «Беларусь літаратурная» выдавецтва «Мастацкая літаратура» акрэсліла ў апошнія гады цікавы і досыць плённы накірунак у сваёй дзейнасці. Нельга сказаць, што такога ў айчынным кнігавыданні не было. Яшчэ ў 1926 годзе ў Полацку выходзіць альманах «Наддзвінне», які аб'ядноўвае творы «маладнякоўцаў», што працавалі ў горадзе на Дзвіне. У 1949-м пабачыў свет «Літаратурны Магілёў». Ужо ў 1990-я ініцыятыўная група Брэсцкай вобласці пры істотнай падтрымцы аблвыканкама падрыхтавала два выпускі гісторыка-краязнаўчага і літаратурнага зборніка «Берасцейскія карані». Дакладней, у 1993 годзе выйшаў аднайменны зборнік. А ў 1998 – «Берасцейскія карані'98». Рознапланавыя па сутнасці пастаўленых укладальнікамі задач, зборнікі гэтыя дапамагаюць і зараз часамі болей шырока, чым кнігі аднаго аўтара, уявіць карціну літаратурнага жыцця на пэўным гістарычным адрэзку часу.***

# «Люблю наш край...»

## *Узорная літаратурна-краязнаўчая анталогія*

Серыя «Беларусь літаратурная» – фактычна новая прыступка на шляху стварэння партрэта рэгіёну. І хоць ужо выдадзена некалькі своеасаблівых, скажам так, «рэгіянальных анталогій», «валожынскі» том найболей яскрава адказвае на запыты чытачоў, якія хацелі б мець літаратурнае, мастацкае ўяўленне пра той ці іншы край.

Вершам Канстанцыі Буйло «Люблю», напісаным у Вішневе 25 верасня 1910 года, пачынаецца анталогія «Люблю наш край...» з падзагалоўкам: «Валожыншчына літаратурная». Вішнева – паселішча, вядомае яшчэ з XIV стагоддзя. У 2-й палове XVI – мястэчка, цэнтр гміны ў Ашмянскім павеце віленскага ваяводства. Вельмі мала вядома пра стасункі К. Буйло з паселішчам. Толькі ў энцыклапедыі «Гісторыя Беларусі» чытаем: «... У В.(ішневе)... жыла і пахавана бел.(аруская) паэтэса К. Буйло...» Шкада, што і ўкладальнік не расшыфроўвае акалічнасцяў жыцця паэтэсы ў Вішневе. Верш «Люблю» ведае, пэўна, кожны, хто наогул нераўнадушны да беларускага слова. Простыя і выразна-эмацыянальныя, шчыра-патрыятычныя і ціхмяна-грамадзянскія словы – у глыбінях памяці тысяч і тысяч беларусаў. Такім бы вершам ды помнікі ставіць!.. Чытаючы неўміручыя радкі К. Буйло, узнаўляеш у памяці словы Дз.С. Ліхачова: «... зразумець літаратуру, не ведаючы мясцін, дзе яна нарадзілася, не меней цяжка, чым зразумець чужую думку, не ведаючы мовы, на якой яна выказана. Ні паэзія, ні літаратура не існуюць самі па сабе: яны вырастаюць на роднай глебе і могуць быць зразумелыя толькі ў сувязі з усёй роднай краінай».

За вершам К. Буйло – «Гімн Валожынскай зямлі». Словы напісаў С. Маляўскі. Аўтар музыкі – Э. Зарыцкі. Публікацыя пададзена з нотамі. І пасля, калі чытач атрымаў настраёвы зарад, эмацыянальна, пачуццёва ўзбагаціўся, кніга адкрываецца прадмовай старшыні Валожынскага райвыканкама Івана Маркевіча, у якой ёсць і такія словы: «Развіваючы эканоміку, адраджаючы сяло, мы па-ранейшаму клапоцімся пра чалавека з яго марамі і захапленнямі. Праводзіцца вялікая работа па захаванні нашых нацыянальных традыцый і культурнай спадчыны. На ніве адраджэння грунтуецца духоўнае выхаванне моладзі, ствараюцца спрыяльныя ўмовы для працы адораных людзей для таго, каб вынік іх працы быў заўважаны і ацэнены. Выхад гэтага зборніка літаратараў Валожыншчыны – пацвярджэнне таму.

Мы падтрымліваем і будзем падтрымліваць сваіх таленавітых землякоў, чыя творчасць, чый талент служаць выхаванню пачуцця любові да Айчыны, адданасці роднаму краю».

Першы раздзел «Валожынскай анталогіі» – «Крыніцы жыватворныя». Укладальнік Вячаслаў Рагойша на першы план вылучыў народную вусна-паэтычную творчасць краю. Матэрыялам паслужыла кніга У. Зянько «Спадчына маёй зямлі».

Тут трэба зрабіць кароткае адступленне і сказаць некалькі слоў пра Уладзіміра Зянько. У каментарыях перш-наперш ён названы фальклярыстам і паэтам, які нарадзіўся ў вёсцы Селеўцы Маладзечанскага раёна. Ды чытаем далей і адкрываем, наколькі гэта магчыма ў дадзеным выпадку, унікальны лёс: «... Скончыў некалькі класаў пачатковай польскай школы. Працаваў шафёрам, слесарам у Маладзечанскім лакаматыўным дэпо. Супрацоўнічаў з рэгіянальным друкам. Аўтар шэрагу вершаў, паэмы "Беларуская трагедыя". Неаднойчы бываў на радзіме сваёй маці Зосі Сымонаўны, у Валожынскім раёне. Ад яе запісаў звыш 300 народных песень, шмат казак, загадак, прыказак і прымавак...» У 1993 годзе (фалькларыст памёр у 1987) у Мінску пабачыла свет сабраная У. Зянько народная творчасць «Спадчына маёй маці. Песні, загадкі, казкі, жартоўныя апавяданні». Уклаў зборнік вядомы даследчык Васіль Ліцьвінка. Пагадзіцеся, асоба У. Зянько – унікальны прыклад служэння роднаму слову. Просты рабочы, збіральнік фальклору, які не меў спецыяльнай адукацыі, жыццём сваім здолеў даказаць, што пры жаданні, пры трываласці духу можна многае паспець зрабіць у зямным жыцці.

У раздзеле «Карані. Камель. Крона» прадстаўлена творчасць 29 аўтараў, якія альбо нарадзіліся на Валожыншчыне, альбо жылі тут у розныя гады. Да публікацыі кожнага з пісьменнікаў ёсць уступнае слова: артыкул пра літаратара альбо ўрывак з яго аўтабіяграфічных нататак. У каментарыях укладальнік тлумачыць, чым кіраваўся, уключаючы творы адных менавіта ў другі раздзел: «Раздзел знаёміць з творамі пісьменнікаў мінулага і пазамінулага стагоддзяў, што занялі сталае месца ў гісторыі літаратуры. Што датычыць нашых сучаснікаў, то гэта – сябры творчых саюзаў». А ўжо ў трэці раздзел – «Узбор'е» – сабраны «творы маладых літаратараў, цесна звязаных з "родным кутам", пераважна – сяброў літаратурнага аб'яднання "Рунь", што ўжо каторы год існуе на Валожыншчыне». Чацвёрты раздзел – «Далучанасць» – змяшчае «творы (мастацкая проза, паэзія, эсэістыка) літаратараў, якія так ці інакш "далучыліся" да Валожынскага краю (працай, вучобай, месцам часовага пражывання і г.д.) і якіх гэты край натхніў на літаратурную творчасць, абумовіў тэматыку, матывы, пафас творчасці».

Але ж вернемся да другога раздзела. Адкрываецца ён творамі В. Дуніна-Марцінкевіча. Вялікай падборкай прадстаўлена і паэзія Канстанцыі Буйло. Своеасаблівай прадмовай служыць артыкул вядомай журналісткі Дзіяны Чаркасавай. Дарэчы, якраз яна ў свой час, працуючы ў газеце «Голас Радзімы», зрабіла неймаверна шмат для асвятлення жыцця і творчасці Канстанцыі Буйло. Выйшла нават асобная кніга Дз. Чаркасавай «Люблю», прысвечаная паэтэсе. Быў цэлы шэраг публікацый у «Голасе Радзімы». Чытаем у «валожынскай анталогіі»: «Усе Буйло, пачынаючы з бацькі, былі людзьмі гордымі, духоўна незалежнымі і ад гэтага часта мелі залішне клопату.

Не толькі служба панскага аб'ездчыка (Антон Буйло змяніў шмат пасад) прымушала сям'ю пераязджаць з месца на месца. Ён не спускаў сваім гаспадарам знявагі і несправядлівасці, не лез у кішэню па слова, бунтаваў сам і падбухторваў сялян. Антон Аляксандравіч працаваў старшым конюхам у скакавых стайнях князя Гагарына, аб'ездчыкам у графа Тышкевіча, даглядаў ружоўнік, працаваў улікоўцам на цагельні, быў добрым паляўнічым, рабіў пудзілы жывёл і птушак, выраблаў музычныя інструменты, у тым ліку і для свайго сямейнага аркестра, лячыў дзяцей, займаўся пчалярствам... Гэта было цыганскае, часам амаль жабрацкае жыццё...» І далей: «Як вядома, скласці зборнік (размова пра першую кнігу паэтэсы "Курганная кветка". – **А. К.**) К. Буйло прапанаваў Янка Купала. Ён пісаў ёй лісты, патрабуючы ўсё больш і больш вершаў, бо хацеў, каб "кніжка атрымалася найтаўсцейшай". А яна дасылала свае творы і з Горнага Скробава, і з вёскі Чаўшклі на Лідчыне, дзе настаўнічала: днём вучыла дзяцей, а вечарамі праводзіла гутаркі з сялянамі, чытала ім газеты, давала парады. Многа лістоў ішло з Вішнева, дзе жылі бацькі з малодшымі дзецьмі, да якіх Канстанцыя Антонаўна часта ездзіла...»

Будзем спадзявацца, што валожынскія краязнаўцы будуць далей і з часам выкладуць многія акалічнасці бытавання, творчай работы К. Буйло ў Вішневе (Адравонжы). І хаця часу з пачатку мінулага стагоддзя прайшло досыць шмат, яшчэ і зараз да новых росшукаў можна спрычыніцца праз самы разнастайны арсенал краязнаўчых высілкаў. Звярнуўшыся да паэзіі К. Буйло 1910-х гадоў, можна заняцца аналізам мовы вершаў, параўнаннем яе з мясцовымі гаворкамі, фальклорам Вішнева, ваколіц. Па-другое, увагі патрабуюць звесткі пра паселішча канца XIX – пачатку XX стагоддзяў. Веданне пра тагачасных гаспадароў Вішнева, жыхароў вёскі дапаможа ўявіць болей рэльефна, выразна. Можна зазірнуць і ў «Нашу Ніву» 1909–1910 гадоў.

Знаёмячыся з трэцім і чацвёртым раздзеламі «валожынскай анталогіі», яшчэ болей пераконваешся, што ў «героі» абраны асаблівы куточак зямлі беларускай. Адзін толькі валожынскі Ракаў чаго толькі варты!.. І ў яго эпіцэнтры – дом, сядзіба Рагойшаў. Яшчэ знойдзецца той даследчык, што створыць асобную манаграфію на гэту тэму. Хаця і зараз ужо шмат напісана. Таццяна Кабржыцкая піша ў нарысе «Белым каменем адзначылі гэты шлях»: «2002 год у Беларусі быў афіцыйна аб'яўлены "Годам Шаўчэнкі". У сувязі з "Годам Шаўчэнкі" Беларусь двойчы наведаў генеральны дырэктар Нацыянальнага музея Тараса Шаўчэнкі ў Кіеве Сяргей Гальчанка. Ён завітваў і ў Ракаў, быў у прыватным музеі поліэтнічнай культуры Ракаўшчыны. С. Гальчанка быў прыемна ўражаны шырынёю і арыгінальнасцю ўкраінскай класікі ў перакладзе на беларускую мову – Тараса Шаўчэнкі, Івана Франко, Міхайлы Кацюбінскага, Лесі Украінкі, сучасных аўтараў – Ю. Мушкеціка, Р. Іванычука, У. Яварыўскага і іншых, выкананых гаспадарамі і арганізатарамі музея... Ёсць у музеі і навуковыя даследаванні, якія закранаюць праблемы ўкраіністыкі, у прыватнасці, манаграфія "Карані дружбы", асобны вялікі раздзел яе "Будзь і нам жа бацькам мілым, украінча слаўны", названы крылатым радком Янкі Купалы, раскрывае прысутнасць Тараса Шаўчэнкі ў духоўным жыцці Беларусі... Шмат у музеі кніг з аўтографамі ўкраінскіх дзеячаў культуры і навукі, фотаздымкаў, дакументаў, якія сведчаць пра розныя формы існавання "ракаўскай украіністыкі". Тут і матэрыялы рэгулярных Міжнародных навуковых канферэнцый "Ракаўскія чытанні"., і экземпляры рэгіянальнага культурна-асветніцкага перыядычнага выдання "Ракаўскі шлях" (выйшла ўжо трыццаць нумароў газеты, рэдактар-выдавец В. Рагойша) з заўсёднай прысутнасцю ўкраінскай тэматыкі...». Ракаў Рагойшаў – гэта і Уладзімір Караткевіч, Адам Мальдзіс, Алег Лойка, Сяргей Панізьнік... У 1967 годзе ў знак вяселля Вячаслава Рагойшы і Таццяны Кабржыцкай Уладзімір Караткевіч напісаў «Эпіталаму Таццяне і Славе» (над творам дата: «Ракаў, 1967 г.»). Чым не літаратурны дакумент часу:

*Кахання Бог у светлай сіле*
*Сядзіць між нас. Я п'ю нагбом*
*За вас: прыгожых добрых, мілых,*
*За ваш стары і новы дом.*

*Да схілу дзён сваіх астатніх*
*Мы вам сябры. Няхай жыве*
*Наш гонар: Слава і Таццяна,*
*Сябры ад сёння і – навек.*

*Малю аб вечным і адзіным:*
*Хай шчасны будзе на вякі*
*Шлюб Беларусі й Украіны,*
*Шлюб Львова й Іслачы-ракі.*



*Такім пабачыла валожынскі касцёл Святлана ПРАКОФ'ЕВА з Слоніма: «Парфенон!»*

Руплівасць укладальніка выявілася і ў тым, што В. Рагойша сабраў літаратурныя творы, публіцыстычныя нататкі, дзе аўтары, хто ўскосна, штрышком дакрануўся да Валожыншчыны, выказваюць любоў і замілаванне Іслаччу, Ракавам, Дорані, Вішневам ды шмат якімі мясцінамі краю. Таццяна Шамякіна прадстаўлена нататкай «Меркаванні пра назву Ракаў». Уладзімір Субат у эсэ «Наша Волька» знаёміць з журналісткай, ураджэнкай Ракава ВольгайНалецкай (1952–1989). Алесь Пісьмянкоў (1957–2004), паэт, для якога Іслач была адной з любімых рэк, прадстае перад чытачом «валожынскай анталогіі» вершам «Лоўля рыбы ў дзень Святога Пятра». Адам Мальдзіс – нарысам «Сказ пра забытых герояў» (першая публікацыя – у часопісе «Маладосць» за 1964 год).

***Унікальнасць кнігі «Люблю наш край...» настолькі прыкметная, што можна толькі параіць усім укладальнікам-наступнікам: ствараючы карціну «літаратурнага жыцця» таго ці іншага краю, старайцеся трымацца «валожынскай анталогіі», і поспех вам будзе гарантаваны.***

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

**З бібліятэкі «КГ»**

# Усім грыбочкі даспадобы

*(Сяржаніна Г.І., Яшкін І.Я. Грыбы і грыбная кулінарыя: Папулярны энцыклапедычны даведнік. – Мн.: Бел. асац. кулінараў, 2005. – 392 с.)*




Такая кніга выйшла з-пад пяра Г. Сяржанінай і І. Яшкіна, у якой змешчана каля 2 500 найменняў беларускіх грыбоў, парады па іх збіранні, захоўванні і ўжытку, шмат кулінарных рэцэптаў з традыцыйнай беларускай кухні і кухняў многіх народаў свету, лекавыя ўласцівасці грыбоў.

Краязнаўчая адметнасць кнігі ў наяўнасці ў ёй вялікіх мовазнаўчых матэрыялаў пра грыбы. Тут прыведзены народныя грыбныя найменні, што І. Яшкін збіраў цягам многіх гадоў па вёсках і хутарах. У кнізе даецца паказальнік грыбоў па кожным відзе. Такім чынам, вы можаце знайсці ў кнізе сярод іншых даўно забытую, але добра знаёмую з дзяцінства назву грыба сваёй мясцовасці.

Кніга багата ілюстравана картамі распаўсюджвання тых ці іншых грыбоў, пазначаны месцы, дзе можна і дзе нельга іх збіраць.

Кнігу можна набыць у выдавецтве па адрасе: г. Мінск, вул. Кірава, 8, корп. 1, пакой 104; тэл. 227-24-97.

## Калдуны графа Тышкевіча

Зварыць сушаныя грыбы, пакрышыць, дадаць падсмажаную ў масле дробна скрышаную цыбулю, два сырыя яйкі, крыху солі і перцу. Скрышыць як мага драбней кавалак тлустага вэнджанага кумпяка; калі тлушчу ў шынцы нямнога, дадаць свежага сала і змяшаць з грыбамі. Кумпяка трэба ўзяць столькі, колькі будзе грыбоў.

Зрабіць цеста, узяўшы тры шклянкі мукі, два ці тры яйкі, соль і ваду. Пакласці на цеста фарш, зацiснуць краі, як ва ўсіх калдунах, зварыць у кіпені, адцадзіць і abліць перад падаваннем растопленым маслам з добра падсмажаный цыбуляй.

***(З кнігі «Грыбы і грыбная кулінарыя»)***



*Фота Ўладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

**Калекцыянерам і не толькі**

## Гербы на новых марках




У паштовы абарот уведзеныя дзве маркі з серыі «Гербы гарадоў Беларусі». На мініяцюры **№ 675** адлюстраваны герб гарадскога пасёлка Круглае, **№ 676** – горада Пінска. Нагадаем, што гэта працяг серыі, у якой з'явілася больш за дзесятак марак.

Памер мініяцюраў – 28х30 мм, наклад – па 75 тысячаў асобнікаў, мастак – Алег Гайко, ён жа намаляваў спецгашэнне і канверт «Першы дзень».

У дзень выхаду марак у аддзяленнях паштовай сувязі г.п. Круглае і г. Пінска праводзілася памятнае спецгашэнне.

## Яшчэ адзін Орда

Да 200-годдзя з дня нараджэння беларускага літаратара, мастака, кампазітара і музыканта Напалеона Орды прымеркаваны выхад **блока № 55**. Мастак выпуска Ігар Бубен, у блоку змешчаны дзве маркі, памер якіх 26х37 мм, блока – 130х66 мм, наклад – 15 тысячаў асобнікаў.




На **марцы № 677** змешчаны аўтапартрэт творцы. Мастацкае поле блока аздобленае літаграфіяй «Сядзіба Міцкевічаў», змешчаныя надпісы «200 гадоў з дня нараджэння» і «Беларускі літаратар, кампазітар і музыкант, мастак», ордэн «Virtuti Militari» (якім быў узнагароджаны за ўдзел у паўстанні 1831 года), а таксама – трыножнік мальберта, раяль, палаш 1831 года і факсіміле подпісу. На марцы прымененыя элементы абароны.




У дзень выхаду блока ў аддзяленні паштовай сувязі № 3 ў горадзе Іванаве Брэсцкай вобласці праводзілася спецгашэнне на канверце «Першы дзень». На КПД адлюстраваны мальберт і яшчэ два малюнкі Н. Орды – «Уваскрасенская царква, ратуша, бернардзінскі манастыр з касцёлам Св. Антонія» (Віцебск) і «Замак Радзівілаў» (Нясвіж).

***Вялікі дзякуй за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялаў рубрыкі супрацоўнікам выдавецкага цэнтра «Марка» РУП «Белпошта»***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**«ВЯНОЧАК»** – беларускі сцэнічны танец, у якім адлюстраваліся тыповыя рысы дзявочых карагодаў. Вызначаецца лірычнасцю і дэкаратыўнасцю. Створаны К. Мулерам для пастаноўкі нацыянальнага балета «Князь-возера» В. Залатарова (1949), увайшоў у рэпертуар многіх дзяржаўных і самадзейных мастацкіх калектываў.

**ВЯРНІГАРА** (Вярнігор, Гара-Гаравік, Гарыня, Гаравы) – персанаж усходнеславянскіх чарадзейных казак сюжэтнага тыпу, на нейкім важным этапе сябра героя-асілка (Кацігарошка, Івашкі – Мядзведжага Вушка і інш.). Па легендзе валодаў незвычайнай сілай: мог руйнаваць горы. Сустрэўшы больш моцнага, далучаецца да яго, каб для роднага люду рабіць дабро, уступіць у бой з заваёўнікамі, злымі страшыдламі, адстойваючы справядлівасць і дабро. Бывала, Вярнігара ў цяжкія хвіліны праяўляў і баязлівасць, за што строга асуджаўся (меў моц і належна не выкарыстаў яе). Каб трапіць у народныя любімцы, трэба было быць па-разумнаму смелым і часамі здольным нават ахвяраваць сваё жыццё дзеля людзей.

**ВЯРНІДУБ** (Дубавік, Дуб-Дубавік, Дубіна, Лесавы) – персанаж усходнеславянскіх чарадзейных казак сюжэтнага тыпу, часовы памочнік галоўнага героя-асілка (Кацігарошка, Івашкі – Мядзведжага Вушка і інш.). Ён быў здольны выварочваць стогадовыя дубы з карэннем, размахваць імі, як голлем, і далёка перакідваць іх. У казках герой-асілак выпрабоўвае моц Вярнідуба, пасля залічвае яго ў сябры, і яны разам з іншымі народнымі волатамі змагаюцца супраць розных злых сіл і заваёўнікаў, у тым ліку і фантастычных (Змей, Кашчэй Бессмяротны (Здыхлік Неўміручы)), што выяўлялі сваёй дзейнасцю антычалавечыя злыя сілы. Вярнідуб у некаторых фізічных праявах саступаў асілку. Казкі з вобразам Вярнідуба сустракаюцца таксама і ў рускім ды ўкраінскім фальклоры.



*Кацігарошак ва ўкраінскай кнізе*

**ВЯРЫГА** Уладзіслаў (1868, Пскоў – 1916) – польскі філосаф і этнограф, збіральнік беларускага фальклору. Доктар філасофіі. У 1898–1916 гг. быў рэдактарам польскага часопіса «Філасофскі агляд». У польскім часопісе «Збор звестак па айчыннай антрапалогіі» (1889) апублікаваў 45 беларускіх народных песень, запісаных ім у Лідскім павеце. Выдаў кнігу «Беларускія паданні» (Львоў, 1889), у якой змясціў 32 беларускія народныя казкі з Лідскага павета. Даследаваў і латышскі фальклор.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі:
грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 15.03.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 216
Тыраж 1450 асобнікаў.